# нашы аўтары

●

**БУРАУКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Аўтар зборнікаў вершаў «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне».

Цяпер — карэспандэнт газеты «Праўда» па Беларускай ССР.

●

**СКАРЫНКІН** Уладзімір нарадзіўся ў 1939 годзе ў Віцебску. Скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі. Працуе інжынерам.

Аўтар зборніка вершаў «Буслы над аэрадромам».

●

**МАЎЗОН Аркадзь** нарадзіўся ў 1918 годзе ў Віцебску. Скончыў сямігодку і фабрычна-заводскае вучылішча. Працаваў токарам, потым акцёрам, асістэнтам рэжысёра.

Аўтар п'ес «Канстанцін Заслонаў», «Наталля Краўцова», «У ціхім завулку», «У бітве вялікай», «Пад адным небам», «Усяго адно жыццё» і інш.

●

**ЛУКША Валянцін** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Полацку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.

Аўтар зборнікаў вершаў «Гарады нараджаюцца сёння» і «Атава».

Працуе ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

●

**КАРАТКЕВІЧ Уладзімір** нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Скончыў Кіеўскі дзяржаўны ўніверсітэт і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Яго кнігі прозы і паэзіі: «Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Мая Іліяда», «Блакіт і золата дня», «Каласы пад сярпом тваім».

●

**ХАМЧУК Валянціна** нарадзілася ў 1946 годзе ў вёсцы Навасёлкі на Гродзеншчыне. Працавала дываноўшчыцай у Малдавіі, настаўніцай на Урале. Цяпер займаецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна.

●

**ЛЕ Вінь** нарадзіўся ў 1943 годзе ў Паўднёвым В'етнаме. Вучыцца ў Маскоўскім універсітэце імя Ламаносава.

Аўтар зборніка вершаў «Карэнне».

●

**ТХО Ань нарадзілася** ў 1921 годзе ў Паўночным В'етнаме.

Аўтар зборнікаў «Сельскія замалёўкі», «Жанчына з Рэу-Ланга» і «Пад крыллем голуба».

●

**ПАДРЭЗ Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Чашніні. Скончыў геафак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. З 1958 года — на камсамольскай рабоце.

Цяпер — першы сакратар ЦК ЛКСМБ.

●

**МАЧУЛЬСКІ Раман** нарадзіўся ў 1903 годзе ў вёсцы Крываносы Старадарожскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі, працаваў культасветработнікам, зменным майстрам. Скончыў Вышэйшую школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б у Мінску.

У гады Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў тыле ворага. Быў адным з сакратароў Мінскага падпольнага абкома партыі і камандзірам партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомльскай зоны.

Аўтар кнігі ўспамінаў «Вечны агонь».

●

**БАЧЫЛА Алесь** нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Лешніца на Міншчыне. Скончыў настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў, служыў у Савецкай Арміі.

Цяпер — адказны сакратар рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар зборнікаў вершаў «Шляхі», «Подых вясны», «Зоры вясеннія», «Дарыце цюльпаны», «Асенняя аповесць», «Снежная балада» і інш.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 9**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Пятро ЛІПАЙ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдацыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775 — аддзел інфармацыі.

АТ 26282. Здадзена ў набор 27/VII-70 г. Падпісана да друку 4/IX-70 г.
Тыраж 13740 экз. Зак. 1048. Цана 40 кап. Папера 70×108¹/₁₆. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі праспі., 79.**



Вячаслаў АБУХАЎ. Скульптура для дзіцячага сада. Шамот.

Фота В. ЖДАНОВІЧА.